# КАМУНІЗМ СТАНОВІЦЦА ЯВАЮ НАШЫХ ДЗЁН


ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# ЛІТАРАТУРА і МАСТАЦТВА

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

№ 84 (1618) | Аўторак, 24 кастрычніка 1961 года | Цана 4 кап.


## На XXII з'ездзе КПСС

**19 кастрычніка ў Маскве, у Крамлёўскім Палацы з'ездаў, працягваў сваю работу чарговы XXII з'езд Камуністычнай партыі Савецкага Саюза.**

**З'езд абмяркоўваў справаздачу Цэнтральнага Камітэта КПСС, праект Праграмы Камуністычнай партыі Савецкага Саюза і справаздачны даклад Цэнтральнай Рэвізійнай Камісіі КПСС.**

**На ранішнім пасяджэнні з'езда выступілі таварышы: П. Н. Дзёмічаў — першы сакратар Маскоўскага гарадскога камітэта КПСС, М. В. Падгорны — першы сакратар ЦК Кампартыі Украіны, І. В. Спірыдонаў — першы сакратар Ленінградскага абкома КПСС, К. Т. Мазураў—першы сакратар ЦК Кампартыі Беларусі, Ш. Р. Рашыдаў — першы сакратар ЦК Кампартыі Узбекістана, Д. А. Кунаеў—першы сакратар ЦК Кампартыі Казахстана.**

**На вячэрнім пасяджэнні з'езд віталі горача сустрэтыя дэлегатамі і гасцямі прадстаўнікі зарубежных камуністычных і рабочых партый: таварышы Чжоу Энь-лай—намеснік Старшыні Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Кітая, член Палітбюро ЦК КПК, які зачытаў прывітанне Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Кітая, У. Гамулка—першы сакратар ЦК Польскай аб'яднанай рабочай партыі, М. Тарэз—генеральны сакратар Французскай камуністычнай партыі.**

**Затым з'езд прадоўжыў абмеркаванне справаздачы Цэнтральнага Камітэта КПСС, праекта Праграмы Камуністычнай партыі Савецкага Саюза і справаздачнага даклада Цэнтральнай Рэвізійнай Камісіі КПСС. На пасяджэнні выступілі: таварышы Л. І. Брэжнеў — Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР, В. П. Мжаванадзе—першы сакратар ЦК Кампартыі Грузіі, Г. І. Воранаў — намеснік Старшыні Бюро ЦК КПСС па РСФСР.**

**20 кастрычніка на ранішнім пасяджэнні выступілі таварышы: В. Ю. Ахундаў—першы сакратар ЦК Кампартыі Азербайджана, К. А. Фурцава — міністр культуры СССР, Л. Н. Яфрэмаў — першы сакратар Горкаўскага абкома КПСС, М. У. Келдыш—прэзідэнт Акадэміі навук СССР, Д. Расулаў — першы сакратар ЦК Кампартыі Таджыкістана.**

**З'езд заслухаў даклад Мандатнай камісіі з'езда, з якім выступіў старшыня Мандатнай камісіі тав. В. Н. Цітоў.**

**Даклад Мандатнай камісіі зацвярджаецца аднагалосна.**

**У канцы ранішняга пасяджэння з'езд вітаў горача сустрэты дэлегатамі і гасцямі тав. Антанін Новатны—першы сакратар ЦК Камуністычнай партыі Чэхаславакіі.**

**На вячэрнім пасяджэнні працягвалася абмеркаванне справаздачы Цэнтральнага Камітэта КПСС, праекта Праграмы Камуністычнай партыі Савецкага Саюза і справаздачнага даклада Цэнтральнай Рэвізійнай Камісіі КПСС.**

**Затым з'езд віталі горача сустрэтыя дэлегатамі і гасцямі прадстаўнікі зарубежных камуністычных і рабочых партый таварышы: Вальтэр Ульбрыхт — першы сакратар ЦК Сацыялістычнай адзінай партыі Германіі, Пальміра Тальяці — генеральны сакратар Італьянскай камуністычнай партыі, Георге Георгіу-Дэж—першы сакратар ЦК Румынскай рабочай партыі, Янаш Кадар—першы сакратар ЦК Венгерскай сацыялістычнай рабочай партыі.**

**21 кастрычніка з'езд абмяркоўваў справаздачу Цэнтральнага Камітэта КПСС, праект Праграмы Камуністычнай партыі Савецкага Саюза і справаздачны даклад Цэнтральнай Рэвізійнай Камісіі КПСС.**

**На ранішнім пасяджэнні выступілі таварышы: В. В. Грышын — старшыня ВЦСПС, А. В. Гіталаў — брыгадзір трактарнай брыгады калгаса імя XX з'езда КПСС Нова-Украінскага раёна (Кіраваградская партарганізацыя), М. А. Суслаў — сакратар ЦК КПСС.**

**Затым з'езд віталі горача сустрэтыя дэлегатамі і гасцямі прадстаўнікі зарубежных камуністычных і рабочых партый таварышы: Тодар Жыўкаў — першы сакратар ЦК Балгарскай камуністычнай партыі, Кім Ір Сен — старшыня ЦК Працоўнай партыі Карэі, Хо Шы Мін — старшыня ЦК Партыі працоўных В'етнама, Юмжагійн Цэдэнбал — першы сакратар ЦК Мангольскай народна-рэвалюцыйнай партыі.**

**На вячэрнім пасяджэнні з'езд віталі горача сустрэтыя дэлегатамі і гасцямі прадстаўнікі зарубежных камуністычных і рабочых партый таварышы: Блас Рока — член кіраўніцтва аб'яднаных рэвалюцыйных арганізацый Кубы, Дзіпа Нусантара Айдзіт — старшыня ЦК Камуністычнай партыі Інданезіі, Аджой Кумар Гхош — генеральны сакратар Нацыянальнага савета Камуністычнай партыі Індыі.**

**З'езд працягваў абмеркаванне справаздачы Цэнтральнага Камітэта КПСС, праекта Праграмы Камуністычнай партыі Савецкага Саюза і справаздачнага даклада Цэнтральнай Рэвізійнай Камісіі КПСС. На пасяджэнні выступілі: М. І. Ражнёва — памочнік майстра Купавінскай тонкасуконнай фабрыкі Ногінскага раёна (Маскоўская абласная партарганізацыя), А. М. Касыгін — першы намеснік Старшыні Савета Міністраў СССР, Г. І. Вараб'ёў — першы сакратар Краснадарскага крайкома КПСС, Я. Н. Зарабян — першы сакратар ЦК Кампартыі Арменіі.**

★

XXII з'езд КПСС, з'езд будаўнікоў камунізма працягвае сваю работу. Разгорнута новая старонка вялікага гістарычнага летапісу чалавецтва. Праграма пабудовы камунізма, якая шырока абмяркоўваецца партыяй і ўсім народам, з'яўляецца дакументам сусветнага значэння, камуністычным маніфестам XX стагоддзя.

Ідэі камунізма як сацыяльнай тэорыі з'явіліся яшчэ ў эпоху рабаўласніцтва і, пачынаючы з часу іх узнікнення, аж праз усю гісторыю чалавецтва, яны цьмяна выказвалі імкненні працоўных да шчаслівага жыцця. Тагачасныя камуністычныя вучэнні, будучы ўтапічнымі, не маглі ўказаць працоўным сапраўднага выйсця з іх цяжкага становішча, адкрыць законы развіцця грамадства, знайсці грамадскую сілу, здольную стаць творцам новага грамадства. Іх тэорыі заставаліся толькі тэорыямі, якія праходзілі міма народных мас.

Нягледзячы на цэлую фалангу таленавітых людзей, якія выкладалі гэтыя ідэі, падкрэслівае Ленін, іх тэорыя заставалася ў баку ад жыцця, іх праграма — у баку ад народнага палітычнага руху, пакуль буйная машынная індустрыя не ўцягнула ў вір палітычнага жыцця масы рабочага пралетарыяту і пакуль не быў знойдзены сапраўдны лозунг яго барацьбы. Гэты лозунг быў знойдзены Марксам, вуснамі якога ў сярэдзіне мінулага стагоддзя абвешчана: вызваленне рабочага класа — яго ўласная справа.

Вялікая думка аб вызваленні прыгнечаных, аб новым жыцці на зямлі навукова, з геніяльнай прастатой раскрытая ў «Маніфесце Камуністычнай партыі», ахапіла сваім палымяным дыханнем масы, узняла іх на актыўную класавую барацьбу. «Маніфест» стаў жывой, баявой духоўнай зброяй працоўных.

Ул. І. Ленін, тытанічная фігура якога стаяла на парозе стагоддзя, як сімвал класа, што ўсвядоміў сваю гістарычную місію, здолеў як ніхто прымяніць тэорыю і метад Маркса, развіўшы іх далей, прыстасоўна да новай эпохі, да разумення эканамічнай і палітычнай абстаноўкі ў Расіі таго часу.

Абапіраючыся на ўзрастаючую свядомасць і рэвалюцыйнасць рабочага класа, на яго саюзніка — бяднейшае сялянства, партыя прывяла народ да перамогі Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі ў нашай краіне. Падпісаннем першых дэкрэтаў Савецкай улады, складаннем канкрэтнай праграмы сацыялістычнага будаўніцтва Ленін расчыніў вароты ў будучыню, якая з туманнай мары аб камунізме стала рэвалюцыйнай практыкай, што ператварае свет.

Ленін, зыходзячы з аб'ектыўнага аналізу палітычнага і эканамічнага жыцця краіны і вопыту міжнароднага рабочага руху, унёс вялікі ўклад у скарбніцу марксізма. Рабочы клас усяго свету знайшоў у Леніне не толькі свайго палітычнага правадыра, выдатнага арганізатара, але і геніяльнага тэарэтыка.

Ленінская Праграма пабудовы сацыялізма, прынятая VIII з'ездам партыі ў 1919 годзе ў выглядзе другой Праграмы, цалкам выканана: сацыялізм перамог у Савецкім Саюзе поўнасцю і канчаткова. Праграма, якая нарадзілася на VIII з'ездзе РКП(б), піша член ЦК Венгерскай сацыялістычнай рабочай партыі Ласла Хай, можа, як заслужаны ветэран, ганарыцца тым, што дасягнута камуністамі за гады Савецкай улады. Нібы маяк асвятляла яна непратаптаныя шляхі сацыялістычнага будаўніцтва ў СССР. З яе дапамогаю савецкія людзі даказалі перавагу новага ладу на ўдарных будоўлях пяцігодак, на франтах Айчыннай вайны, у прасторах космасу, а цяпер яна з няменшай сілай дапамагае братнім краінам народнай дэмакратыі.



Гэты здымак зроблены ў пераплётным цэху Мінскага паліграфічнага камбіната імя Якуба Коласа. Брыгада камуністычнай працы, якой кіруе Аляксандр Агееў, знаёміцца з матэрыяламі XXII з'езда КПСС.

## З'ЕЗД СВЕТЛАГА ЗАЎТРА

Ленін вучыць, што наша праграма партыі павінна быць праграмай гаспадарчага будаўніцтва, інакш яна непрыгодная і як праграма партыі. Мы абавязаны зыходзіць з таго марксісцкага палажэння, якое ўсімі прызнаецца, што праграма павінна быць пабудавана на навуковым падмурку. У праграме трэба пісаць з абсалютнай дакладнасцю тое, што ёсць, патрабаваў Ленін. Тады наша праграма — неаспрэчная. Наша «праграма, — вучыць Ленін, — павінна заключаць абсалютна бясспрэчнае, фактычна ўстаноўленае, толькі тады яна — праграма марксісцкая». І толькі пры такой умове праграма партыі будзе «мацнейшым матэрыялам для прапаганды і агітацыі, будзе тым дакументам, на аснове якога рабочыя скажуць: «Тут нашы таварышы, нашы браты, тут робіцца наша агульная справа».

Праграма КПСС, якая абмяркоўваецца XXII з'ездам партыі, адпавядае ўсім тым патрабаванням, якія ставіў Ленін. У Праграме вызначаны асноўныя законы камуністычных ператварэнняў у перыяд пераходу ад сацыялізма да камунізма. Праграма Камуністычнай партыі Савецкага Саюза паказвае ўсім людзям на зямлі, што партыя самымі трывалымі сувязямі звязана з народам, чэрпае свае сілы з народных мас і глыбока верыць ім, што яна і існуе толькі для таго, каб здзейсніць спрадвечную мару працоўных: «Усё ў імя чалавека, для шчасця чалавека». Увесь змест Праграмы прасякнуты ленінскім гуманізмам, клопатамі пра чалавека, пра мір ва ўсім свеце.

XXII з'езд дае адказы на ўсе пастаўленыя жыццём, практыкай стварэння і барацьбы, новыя тэарэтычныя пытанні. Увасабляючы калектыўную думку нашай партыі, Праграма КПСС узбагачае марксізм-ленінізм вучэннем аб камунізме. У Праграме ўпершыню даецца разгорнутая характарыстыка другой фазы камуністычнай грамадска-эканамічнай фармацыі. Камунізм як вышэйшая форма арганізацыі грамадскага жыцця — гэта бяскласавы лад з адзінай агульнанароднай уласнасцю на сродкі вытворчасці, поўнай сацыяльнай роўнасцю ўсіх членаў грамадства, дзе разам з усебаковым развіццём людзей вырастуць і прадукцыйныя сілы на аснове навукі і тэхнікі, якая будзе няспынна развівацца, усе крыніцы грамадскага багацця пальюцца поўным патокам і ажыццёвіцца вялікі прынцып «ад кожнага — па здольнасцях, кожнаму — па патрэбнасцях». Камунізм — гэта высокаарганізаванае грамадства свабодных і свядомых працаўнікоў, у якім усталюецца грамадскае са-

(Заканчэнне на 2-й стар.)

## ВЕКАПОМНЫ ЧАС

Я пераконаны — няма чалавека, які б у гэтыя дні абыякава разгарнуў газету або, седзячы ля прыёмніка, блукаў па эфіры ў пошуках лёгкай музыкі. Гэта я гавару не толькі пра нашых сяброў, якіх мільёны ва ўсім свеце, а і пра самых лютых нашых ворагаў, якіх куды менш, хаця яны яшчэ пакуль і валодаюць пэўнай сілай.

У гэтыя дні ўсе прагна слухаюць Маскву. Ловяць кожнае слова з Масквы. Чытаюць, што адбываецца ў Маскве.

Тысячы год існавала прыказка «Усе дарогі вядуць у Рым», але колькі ўжо там было тых дарог...

Тысячы дарог вядуць у Маскву. Гэтай новай прыказцы не так ужо і многа год, але яна застанецца навекі, і ўжо ніколі не будзе забыта.

Я ўважліва і не адзін раз прачытаў праект новай Праграмы нашай партыі. Чытаючы падумаў — гэты найвялікшы дакумент адрасаваны не толькі ўсяму чалавецтву, ён адрасаваны кожнаму чалавеку асобна.

У дваццатым стагоддзі здзейсніцца тое, аб чым марылі людзі на працягу ўсіх папярэдніх дзевятнаццаці, разам узятых, а таксама яшчэ больш і больш старадаўніх часоў.

З няменшым хваляваннем і таксама не аднойчы чытаю я даклады Мікіты Сяргеевіча Хрушчова на XXII з'ездзе КПСС. Чытаю, як цудоўнейшыя паэмы, у якіх кожны радок працінае сэрца сваім дзівосна глыбокім зместам, сонечнай яснасцю думкі, здзіўляючай у самым лепшым сэнсе гэтага слова, узнёсласцю, што ўзнімае чалавека на неабсяжныя высі, і ён ясна, на свае вочы бачыць: ВОСЬ ЁН ЯКІ — КАМУНІЗМ.

Ён ужо блізкі і бачны нам. Ён велічны. У ім на дзіва ўсё гарманічна і прыгожа. Нам вельмі добра будзе жыць — гэта значыцца працаваць, бо без працы няма жыцця. Нам надзвычай лёгка будзе дыхаць, бо ніхто не адважыцца забрудзіць паветра. Нам усімі фарбамі вясёлкі будзе квітнець усё высакароднае, што можа стварыць чалавек. А чалавек можа стварыць усё.

І разам з тым я думаю: не такі ўжо вялікі прамежак часу, што аддзяляе нас ад тых светлых дзён — усяго толькі дваццаць год. А зрабіць за гэтыя гады трэба вельмі многа.

Галоўнае — выхаваць чалавека, які мог бы па праву ўвайсці ў камунізм. Гэты чалавек вонкава будзе падобны на сённяшняга, нават на ўчарашняга і пазаўчарашняга, але ўнутрана павінен быць іншым. Павінен быць новым, ачышчаным ад бруду, які напластаваўся на ім, на адным менш, на другім больш, стагоддзямі мінуўшчыны.

Я зараз заканчваю новую п'есу. Яна будзе называцца: «Небяспечна, — Мякішавы». Мякішавы — гэта людзі, якія жывуць сёння, але трымаюцца філасофіі ўчарашняй. Яны таксама рыхтуюцца ўвайсці ў камунізм. Праўдзівей — не ўвайсці, а пралезці. І абавязкова на чужым карку. Такія ўжо цяпер шукаюць найбольш зручны ход, найбольш прыдатную фарбу, каб, прыкрыўшыся ёю, змяшацца з чыстымі, вонкава быць падобнымі да іх і такім чынам прабрацца ў заўтра. Небяспечна тое, што яны імкнуцца не толькі прабрацца ў заўтра, але і захапіць, паспрабаваць захапіць там больш утульнае, цёплае месцечка.

Такія яшчэ ёсць. Свяшчэнны абавязак пісьменніка, асабліва драматурга, усімі існуючымі ў яго сродкамі выкрыць такіх, каб убачыўшы іх, людзі ведалі, з кім маюць справу — гэта значыць, ведалі, што з такімі рабіць.

У справаздачным дакладзе Мікіты Сяргеевіча на XXII з'ездзе ёсць такія словы:

«Выхаванне новага чалавека— складаны і працяглы працэс. Немагчыма механічна перасяліць людзей з царства капіталізму ў царства камунізма. Нельга браць у камунізм чалавека, які аброс мохам капіталістычных забабонаў. Трэба раней паклапаціцца аб тым, каб вызваліць яго ад грузу мінулага. Барацьба з перажыткамі капіталізму ў свядомасці людзей, змяненне выпрацаваных стагоддзямі навыкаў і нораваў мільёнаў людзей, пачатае нашай рэвалюцыяй, — справа працяглая і не простая. Перажыткі мінулага — страшная сіла, якая, як кашмар, гняце розумы жывучых. Яны карэняцца ў быце і ў свядомасці мільёнаў людзей яшчэ доўга пасля таго, як знікаюць эканамічныя ўмовы, што спарадзілі іх».

Няма больш пачэснага абавязку для пісьменніка, як дапамагчы партыі перавыхоўваць такога чалавека, падрыхтаваць яго для пераходу ў камуністычнае заўтра.

І тут, у гэтым я таксама пераконаны, — новая Праграма нашай партыі, даклады Мікіты Сяргеевіча — найцудоўнейшая праграма для творчай працы кожнага мастака, невычарпальная крыніца для творчага натхнення, компас, ідучы па якому, пісьменнік-мастак ніколі не саб'ецца з правільнага шляху.

Цудоўная сёлета восень. Надзіва ясная, прыгожая, яркая. Найбольш яркімі днямі гэтай восені застануцца дні работы XXII з'езда КПСС.

Гэта сапраўды векапомны час.

**Аркадзь МАЎЗОН.**

## РАЗАМ З НАРОДАМ

**XXII з'езд КПСС абмяркоўвае велічныя пытанні пабудовы ў нашай краіне камуністычнага грамадства. І калі знаёмішся з дакладамі таварыша М. С. Хрушчова і рэальна ўяўляеш сабе, якога гіганцкага росквіту дасягнуць у бліжэйшыя дваццаць год прамысловасць і сельская гаспадарка, навука і культура, міжволі думаеш, як жа нам, творчым работнікам, трэба працаваць, каб не адстаць ад бурнага развіцця краіны.**

**Творчая інтэлігенцыя рэспублікі жыве інтарэсамі і спадзяваннямі шырокіх народных мас. Але зараз яна павінна яшчэ глыбей пранікнуць у жыццё людзей, ведаць іх штодзённыя культурныя і духоўныя запатрабаванні і імкнуцца заўсёды як мага лепш задаволіць іх. Толькі цесная і непасрэдная сувязь з рабочымі і калгаснікамі, з усім працоўным народам можа натхніць любога мастака-творцу на самыя трапяткія тэмы сучаснасці і падказаць найбольш правільнае іх вырашэнне ў творах мастацтва.**

**А колькі ў народзе ёсць таленавітых музыкантаў-самародкаў, народных стваральнікаў песень і вершаў, здольных выканаўцаў! Пазнаёмцеся бліжэй з іх прывабнай, самабытнай творчасцю і вы ўбачыце, якія незлічоныя багацці тоіць яна ў сабе і якую вялікую карысць можа прынесці нашым прафесіянальным калектывам! Народныя песні, частушкі, танцы трэба запісваць і вывучаць і, надаўшы ім прафесіянальную сцэнічную форму, шырока прапагандаваць. Нядаўна мне давялося прысутнічаць на аглядзе маладых самадзейных выканаўцаў Мінскай вобласці. Я прыйшоў у захапленне ад выступлення самадзейнай спявачкі І. Шапавалавай (Стаўбцы), якая з сапраўдным натхненнем здолела сама напісаць і выканаць частушкі пад назвай «Дзявочыя міжпланетныя». Не магу не прывесці некаторыя радкі з іх:**

Космас намі заваёван,
Шлях адкрыты ўсім туды.
Скора, скора на планетах
Пабудуем гарады!

**Вось вам прыклад таго, як сам народ адгукаецца на гераічныя падзеі нашага часу, ствараючы жыццярадасныя, вясёлыя частушкі і песні, упэўнена гледзячы ў светлую будучыню. Дык як пасля гэтага не збіраць гэтыя залатыя перлы нашага фальклору? Наш калектыў, побач з вялікай канцэртнай дзейнасцю, заўсёды займаецца зборам і запісам лепшых узораў народнай творчасці. Мы запланавалі паехаць на Гомельшчыну, у Веткаўскі раён, які мяжуе з Расіяй, каб вывучыць і запісаць новыя народныя песні, танцы і прасачыць на іх узаемны ўплыў дзвюх культур рускага і беларускага народаў, якія ў савецкую эпоху жывуць, як браты, і ідуць агульнымі шляхамі да камумунізма.**

**Г. ЦІТОВІЧ,**
**народны артыст БССР, мастацкі кіраўнік Беларускага народнага ансамбля песні і танца.**

## Гістарычны дзённік

**Ён пачаўся семнаццатага кастрычніка. Сорак чатыры гады таму назад, прыкладна ў гэты ж час, пачалася Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя. Міжвольна аб гэтым успамінаецца кожны раз, калі слухаеш дзённік тых гістарычных падзей, якія адбываюцца цяпер у Крамлёўскім Палацы з'ездаў, калі чытаеш матэрыялы з'езда, асабліва глыбокія, надзвычай эмацыянальныя даклады Мікіты Сяргеевіча Хрушчова.**

**Што б ні было ў цябе на стале, якой бы тэрміновай справай ты ні быў заняты, усё роўна адкладзеш яе, каб паслухаць дзённік з'езда або паглядзець па тэлевізару. І гэтак, пэўна, у кожнага савецкага чалавека, у кожнага сумленнага чалавека ва ўсім свеце. Душа не можа не радавацца ад усведамлення, што на тваіх вачах, пры тваім, няхай самым сціплым, удзеле адбываецца нешта да таго вялікае і грандыёзнае, што яго глыбокі след застанецца ў вяках. Гэты дзённік, які мы цяпер слухаем, будуць вывучаць многія пакаленні.**

**Мы, старэйшыя па ўзросту людзі, перажываем цяпер асабліва натхнёныя і хвалюючыя гадзіны. Не кожны з нас мог прыняць непасрэдны ўдзел у тым Вялікім Кастрычніку, які адбыўся сорак чатыры гады таму назад. Іншаму гадоў тады не хапала, а, можа, катораму і належнай свядомасці. Аднак мы памятаем тыя гады, асабліва гады грамадзянскай вайны і станаўлення Савецкай улады. Ніколі не забудзецца, як узнімаліся лепшыя людзі на рашучую барацьбу за сваё шчасце, за радасць сваіх дзяцей і ўнукаў. Ніколі не забудуцца незлічоныя ахвяры, якія панёс наш народ у вялікай схватцы з сусветным імперыялізмам, а потым у гераічнай бітве з сусветным фашызмам.**

**І вось новы кастрычнік 1961 года. Як пераўтварылася, як закрасавала ў шчасці наша вялікая Радзіма! Кожны савецкі чалавек — удзельнік нашага натхнёнага, грандыёзнага будаўніцтва. Гэтак жа сама кожны з нас можа лічыць сябе і ўдзельнікам XXII з'езда, які закладвае трывалы і непахісны падмурак будаўніцтва камунізма. Мы слухаем гістарычны дзённік і адчуваем, што прысутнічаем там, у Крамлёўскім Палацы, разам з нашымі дэлегатамі абмяркоўваем справаздачу ЦК КПСС і вялікую Праграму пабудовы камунізма.**

**І мы адчуваем шчасце, што і самі яшчэ будзем жыць пры тым новым грамадстве, асновы якога закладваюцца на XXII з'ездзе нашай партыі, — пры камунізме. Хочацца прыкласці ўсе свае сілы, усе свае здольнасці, аддаць усё, што ў цябе ёсць, каб гэтая светлая пара настала хутчэй, каб наша краіна і надалей служыла яркім маяком для ўсяго прагрэсіўнага чалавецтва нашай планеты.**

**Аляксей КУЛАКОЎСКІ.**

**Сцяпан ГАЎРУСЕЎ**

## НАМ БУДУЧЫНЯ РУКІ ПРАЦЯГНУЛА

**Як на уступах горных альпіністы,**
**Каб век не адступіцца ад свайго,**
**Трымаюцца з'яднана камуністы:**
**Адзін—за ўсіх, усе—за аднаго.**

**Калі з сяброў не падвядзе**
**ніводны,**
**Усім ступаць надзейней і лягчэй**
**Да тых вяршынь, дзе далягляд**
**свабодны**
**Адкрыецца для здзіўленых вачэй.**

**І вось, не пераводзячы дыхання,**
**Мы на хрыбет вышэйшы узышлі,**
**Дзе бачны скрозь аблокаў**
**калыханне**
**Абсяг шырокі бацькаўскай зямлі.**

**На міг адзін захочаш агледзецца,**
**І зноў—у шлях, бо зноў перад**
**табой**
**Твой цень на стромы новыя**
**кладзецца,**
**Каб ты адолеў іх цаной любой.**

**І зноў—у шлях, і зноў—ідзеш**
**бясконца,**
**Зара шуміць гарачым кумачом,**
**Смялей, смялей, пакуль самое**
**сонца**
**Прыўзнімеш вышай маладым**
**плячом!**

**Нас у дарозе стома не сагнула,**
**Нас ні вятры, ні кручы не**
**змаглі,—**
**Нам будучыня рукі працягнула,**
**Каб да яе бадзёрымі дайшлі.**

## ВЯЛІКАЯ МЭТА

Зайздрошчу дэлегатам XXII з'езда! Яны прысутнічаюць пры нараджэнні вялікага твора сусветнага значэння—новай Праграмы Камуністычнай партыі Савецкага Саюза. Кожны параграф гэтага дакумента, кожная літара і лічба гавораць пра перамогу ідэй марксізма-ленінізма ў нашай краіне. У гэтым вялікім дакуменце, у стварэнні якога прымаў удзел увесь народ, запісаны самыя запаветныя думкі людзей свабоднай працы. У гэтым творы—спадзяванні прыгнечаных усяго свету.

Уяўляецца, якім яшчэ больш цудоўным стане наша жыццё літаральна праз некалькі год...

«Ужо на працягу першых дзесяці гадоў усе слаі савецкіх людзей здолеюць карыстацца дастаткам, будуць матэрыяльна забяспечаны».

«...усе слаі насельніцтва здолеюць карыстацца добрым, высакаякасным харчаваннем»; «...усе савецкія людзі здолеюць набываць у дастатку прадметы шырокага ўжытку, а ў наступным дзесяцігоддзі попыт на іх будзе задавальняцца поўнасцю».

«На працягу бліжэйшага дзесяцігоддзя мы павінны пакончыць з недахватам жылля. У выніку другога дзесяцігоддзя кожная сям'я будзе забяспечана асобнай добраўпарадкаванай кватэрай...»

Будзе скарачацца працоўны дзень; будзе павялічвацца працягласць аплачваемага адпачынку; знікне катэгорыя нізкааплачваемых рабочых і служачых; будзе забяспечана поўнае ўтрыманне за кошт грамадства ўсіх непрацаздольных...

Ці ж не паэзія ў гэтых запісах!

Ці ж не тыя гэта вызначэнні, надыход якіх прадказваў Ленін, за здзяйсненне якіх людзі гібелі ў царскіх турмах, змагаліся на рыштаваннях пяцігодак і сямігодкі, гінулі ў баях з фашыстамі-цемрашаламі!..

Наша родная Камуністычная партыя робіць усё для таго, каб квітнела жыццё ў нашай краіне, каб нашы людзі працавалі спакойна, каб з кожным днём шырылася кола нашых сяброў за межамі краіны. Мы, простыя працаўнікі, адчуваем гэта штодзённа і ўдзячны партыі за яе вялікія клопаты аб народзе. Такія ж пачуцці выказваюць нашы сябры ў краінах сацыялістычнага лагера, чые дэлегацыі прыбылі на XXII з'езд.

Зусім нядаўна, у верасні, мне давялося пабываць у дзвюх братніх краінах—Чэхаславакіі і Венгрыі. Радасна было бачыць, як хараша жывуць нашы сябры, якіх вялікіх поспехаў дасягнулі яны на шляхах сацыялізма! Чэхі і славакі з гонарам гаварылі нам, што іх рэспубліка называецца сацыялістычнай... У Празе, пры ўваходзе ў Нацыянальны музей-бібліятэку, мы прачыталі яркі транспарант: «Сёння—сацыялізм, заўтра—камунізм!» Гэта сапраўды дэвіз нацыі і дзяржавы, якая ідзе шляхамі Краіны Саветаў. Пачуцці дружбы да савецкіх людзей, якія паказваюць прыклад у барацьбе за камунізм, словы ўдзячнасці савецкаму народу і Камуністычнай партыі гучалі і на мітынгу дружбы ў рабочым горадзе Мілеўско, на сустрэчах з кааператарамі вёскі Радманаў і іншых.

У Будапешце адбылася сяброўская сустрэча з рабочымі сусветна вядомага лікёрнага завода. На заводзе працуюць у асноўным жанчыны. Сакратар партыйнай арганізацыі—жанчына, брыгадзіры—жанчыны, дырэктар прадпрыемства—таксама жанчына, зусім яшчэ маладая для такой пасады, мая равесніца... Ці трэба тлумачыць, аб чым гаварылі мы з венгерскімі сяброўкамі! Мы гаварылі аб міры, аб каханні, аб любімай рабоце, марылі пра будучыню... Дамовіліся, што на агульным шляху, разам нам ніякія перашкоды не страшныя!

Кожны дзень я з нецярплівасцю ўключаю радыё і слухаю весткі са з'езда—і весткі гэтыя гучаць у сэрцы цудоўнай музыкай...

Я веру, што нашы планы здзейсняцца. Веру ў блізкі надыход камунізма.

**Еўдакія ЛОСЬ.**

## ПРАГРАМА ЧАЛАВЕЧАГА ШЧАСЦЯ

**З выключным хваляваннем чытаем мы, работнікі мастацтва, матэрыялы гістарычнага XXII з'езда Камуністычнай партыі Савецкага Саюза.**

**Веліч ідэй новай Праграмы КПСС, якая будзе зацверджана на з'ездзе, адкрывае перад намі цудоўныя перспектывы. Гэтыя ідэі яркім факелам асвятляюць нам шлях да творчасці, да высакароднага служэння свайму народу. Даклад М. С. Хрушчова аб праекце новай Праграмы—цудоўная сімфонія пераможнага руху да камунізма.**

**Нашым важнейшым абавязкам з'яўляецца эстэтычнае выхаванне будаўнікоў новага свету. Культура і мастацтва ў нашай краіне ва ўсіх формах, відах і жанрах існуюць для народа, і кожны з нас заклікаем развіваць іх у адпаведнасці з патрабаваннямі часу.**

**Усведамленне высокай адказнасці перад народам дысцыплінуе мысленне мастака, натхняе на нястомныя пошукі новых нязведаных яшчэ шляхоў у мастацтве, актывізуе волю ў дасягненні мэты.**

**Сваёй вобразнай мовай мы раскажам аб велічы народных здзяйсненняў, пакажам са сцэны тое, чым характэрна наша непаўторная эпоха.**

**Натхнёныя праграмай народнага шчасця, мы ўсе свае сілы аддадзім будаўніцтву культуры камуністычнага грамадства.**

**Д. АРЛОЎ,**
**народны артыст БССР, прафесар Тэатральна-мастацкага інстытута.**

# НА СЦЯГ І ГЮЙС

Гэта здарылася выпадкова. Матрос па разгубленасці не задраіў люк шахты падачы паветра дызелям, і як толькі падводная лодка пачала тэрміновае пагружэнне — у кармавы адсек са страшэнным напорам уварвалася вада. Дарэмна намагаліся матросы Каданёў, Пінчук, Факін і Цымбал задраіць люк. Ці ж маглі стрымаць чатыры чалавекі струмень ціскам у некалькі тон? А на падводнай лодцы ёсць жалезнае правіла: здарылася што-небудзь, каманда адсека павінна сама выпраўляць становішча... Праз дзве хвіліны ў адсеку было каля 30 тон вады і лодка, страціўшы ўстойлівасць, амаль у вертыкальным стане паляцела ўніз. На саракаметровай глыбіні карма ўрэзалася ў мяккі іілісты грунт. Пляснулі плафоны і патухла электрычнасць. Трывожна замільгацела аварыйная лямпачка, наступіла цішыня.

Цяпер, калі паветра ў адсеку было нібы спрасаванае, вада не пайшла праз шахту, і матросы з цяжкасцю задраілі люк. Пад вадою, навобмацак, старшына другой стацці Рыгор Каданёў знайшоў тэлефон і звязаўся з цэнтральным пастом. Камандзір лодкі дазволіў выйсці з адсека...

Так пачаліся напружаныя гадзіны барацьбы за жыццё, за выратаванне падводнай лодкі. Становішча было небяспечнае. Прадзьмуць цыстэрны галоўнага баласта і ўсплысці матросы не мелі магчымасці. Для гэтага трэба было вырваць карму з іілістага дна і ўраўнаважыць лодку. Камандзір Расціслаў Белазёраў сабраў падводнікаў на цэнтральны пост. Гледзячы ў вочы таварышам, сказаў:

— Каб пакласці лодку на роўны кіль, у нас ёсць толькі адно выйсце — перапампаваць дваццаць тон вады з кармы на нос. Але мы не можам выкарыстаць сціснутае паветра. Яго вельмі мала. Выйсце такое: перанасіць ваду вёдрамі.

Экіпаж згадзіўся, але вёдраў на лодцы не было. У ход пусцілі бачкі, у якіх кок гатаваў страву. І па ланцугу з рук у рукі папоўз цяжкі бачок. Папоўз знізу ўверх— пераборкі адсекаў сталі падлогай, а падлога — сценамі. Працавалі гадзіну, другую. Адпачылі некалькі хвілін і — зноў бачок у рукі.

Пяцьдзесят бачкоў, сто, сто пяцьдзесят...

На далонях пабялела скура і ўздулася. Потым мазалі трэскаліся і марская вада раз'ядала далоні. Сочыцца з далоняў кроў... Дзвесце бачкоў, дзвесце пяцьдзесят...

Вось ужо дваццаць гадзін лодка ў палоне мора. Цяжка становіцца дыхаць, не хапае паветра. Тэмпература знізілася да чатырох градусаў. Толькі ў адным адсеку гарыць аварыйная лямпачка. Трэба берагчы электраэнергію. І зноў плывуць бачкі. Трыста дваццаты, трыста дваццаць першы...

Пахіснуўся старшы матрос Мікола Дзеранчук і страціў прытомнасць. Яго падхапілі сяброўскія рукі і перанеслі ў другі адсек. Карабельны фельчар устанавіў дыягназ: атручанне вуглякіслым газам. Лячэнне — чыстае паветра. Камандзір загадаў ачысціць паветра ў лодцы патронамі рэгенерацыі. Стала крыху лягчэй дыхаць. Дзеранчук цяжка ўзняўся і стаў на сваё месца ў ланцугу.

Праз дзве гадзіны стомленыя матросы моўчкі размясціліся ў цэнтральным пасту. Пра гэты момант у вахценным журнале захаваўся такі запіс: «Пачаўся камсамольскі сход. Парадак дня— прыём у члены ВЛКСМ матроса Дзеранчука». Рэкамендацыі далі камітэт камсамола лодкі і капітан трэцяга ранга Белазёраў. Выступленні матросаў былі вельмі кароткія—па паўмінуты: каб у часе прамоў залішне не расходваць паветра. Сакратар камсамольскага бюро, старшына другой стацці Павел Мексімюк кіўнуў у бок Дзеранчука і той, цяжка дыхаючы, сказаў:

*У герояў будучых твораў*

— Нарадзіўся ў Беларусі... Працаваў токарам... Спагнанняў за час службы не маю...

Пайшлі трэція суткі марскога палону, трэція суткі барацьбы са стыхіяй. Было адчувальна, што карабель значна зменшыў дэферэнт. І раптам усе прыслухаліся, пачулі: па корпусу лодкі — серыя ўдараў. На мове вадалазаў гэта азначае выклік на сувязь. Яму адказалі. Потым нібы абцасам грымнулі па металічным борце. У адказ — адзін удар з лодкі.

І вадалаз далажыў па тэлефоне на паверхню, што самаадчуванне экіпажа нармальнае.

Праз суткі лодка ўсплыла...

Мы стаім учацвярых на беразе бухты. Раніца. Густы туман ахутаў элегантныя стройныя эсмінцы, і цяжкія шэрыя танкеры, і прыплюснутыя, як скаварoды, баржы. Каля пірса прышвартавалася вядомая ўсяму свету «Слава». Вялізны карабель выступае з туману шэрым шматпавярховым домам. Па традыцыі б'юць рынду і на кацерах, нібы начныя птушкі, ускрыкваюць равуны.

Матрос Альберт Віткоўскі, былы токар Мінскага завода аўтаматычных ліній, углядаецца ў далечыню і гаворыць:

— Служу электрыкам. Забяспечваю электрагаспадарку падводнай лодкі. А вось ён, — Віткоўскі паказаў вачыма на матроса Антона Ціхана, — кацельны машыніст. Адказвае за падачу ацяплення на карабель.

Нізкарослы, крыху сарамлівы, ён не хоча расказваць пра сябе і ўсё пытаецца:

— Як там у Беларусі? Можа, у маёй вёсцы Пяскі былі? Яна ў Лідскім раёне...

Чацвёрты мой новы сябра — старшы матрос Іван Фіешка з вёскі Крывіна Бешанковіцкага раёна. Ён маўклівы. Пра яго шхіперскую службу расказалі Віткоўскі і Ціхан.

А служба ў маракоў-падводнікаў суровая і цяжкая. Бываюць дні, калі вялізныя хвалі кідаюць лодку з борта на борт і на баявую рубку няспынна навальваюцца дзесяткі тон халоднай вады. Яна наскрозь праходзіць праз парусінавую вопратку вахценных, соллю раз'ядае твар, а вецер, насычаны вільгаццю, слепіць вочы. Вось у такі час трэба сачыць за морам. Здаецца, няма хвалі, якая б здолела скрануць з месца вахценнага матроса. І ў сярэдзіне карабля ў маленькай цеснай каюце праз навушнікі слухае мора акустык, чарнабровы балкарац Ільяс Атараў. Ён чуе, як цяжка дыхаюць хвалі, як шамацяць каменнем бераг, як шапоча ў скалах белая пена. Яго пільнае вуха распазнае далёкі глухі рокат карабельных вінтоў. Ён беспамылкова дакладвае:

— Па курсу шум вінтоў эсмінца!

Які навык патрэбен, якое майстэрства, каб праз вялізную тоўшчу вады за тры, за сем кіламетраў толькі па гуку вінтоў распазнаць клас карабля: эсмінец гэта ці крэйсер, транспарт ці тарпедны кацер. Атараў можа гадзінамі ўслухоўвацца ў разнагалосы піск з навушнікаў радыёпеленгатара і вылоўліваць з яго невыразныя сігналы далёкіх радыёмаякоў.

Служаць з Атаравым на лодцы і класны метрыст Станіслаў Бяссонаў, які няспынна сочыць за гарызонтам, і вопытны трумны Уладзімір Сташэўскі, улюбёны ў магутныя рухавікі карабля, і майстар імклівых тарпедных удараў Аляксей Кутняк. Ім патрэбны толькі секунды, каб па загаду камандзіра задраіць люкі і, пагрузіўшыся пад перыскоп, выйсці ў «атаку». Як выбух, прагучыць каманда «Апараты, тоўсь!..» і тарпедыст сцісне ў далонях пісталетныя рукаяткі апаратаў. Пра гэтую каманду добра памятаюць тыя, хто калі-нікалі намагаецца ўпотай увайсці ў нашы тэрытарыяльныя воды. Савецкі ўрад нядаўна папярэдзіў такіх аматараў плаваць. І калі Паўэрсу ўдалося выратавацца, дык ужо тут, як кажуць, выбачайце, але прыдзецца ісці на дно...

Узнімаецца вышэй сонца, знікае з бухты туман. Мае сябры спяшаюцца: роўна ў восем гадзін — пад'ём сцяга. На караблях выстрайваюцца каманды. Вось застылі ў страі экіпажы адной лодкі, другой. Далятаюць словы каманды:

— На сцяг і гюйс смірна!

Не, гэта не толькі каманда, па якой некалькі мінут урачыста ўшаноўваюць сцяг. Гэта каманда заклікае да захавання вялікіх традыцый Ваенна-Марскога Флоту, яна вучыць мужнасці і адвазе. Я зноў прыгадаў фатаграфію майго земляка Мікалая Дзеранчука. Сустрэцца з ім на падводнай лодцы мне не ўдалося: ён дэмабілізаваўся і цяпер працуе загадчыкам сельскага клуба ў вёсцы Літоўск Драгічынскага раёна Брэсцкай вобласці. Днямі пазваніў па тэлефоне ў Драгічын. Прыемна было пачуць, што Мікалай Дзеранчук працуе добра, што нядаўна ён прыняты ў члены Камуністычнай партыі. Шчыра кажучы, я быў упэўнены, што так складзецца лёс гэтага чалавека: у жыцці Дзеранчук заўсёды трымаў раўнанне на савецкі сцяг.

**Ільля КЛАЗ.**

**Н-ская падводная лодка.**

**З рэспубліканскай мастацкай выстаўкі самадзейных майстроў выяўленчага і прыкладнога мастацтва.**
**П. СІТНІКАЎ. «Магілёўская прыстань».**

# ВЕЧАРЫ АБ КАМУНІЗМЕ

Яны выходзілі на трыбуну і расказвалі аб тым, якой уяўляюць нашу будучыню. Чым стане праца для чалавека? Якія подзвігі чакаюць яго? Ці застануцца ў новым грамадстве зайздрасць, рэўнасць, дармаедства?—аб усім гэтым горача гаварылі камсамольцы вёскі Залессе Смаргонскага раёна на тэматычным вечары «Разведчыкі будучыні», які нядаўна адбыўся ў Доме культуры.

Цікавасць моладзі да гэтай тэмы заканамерная. У мясцовым калгасе «Чырвоны партызан» ёсць брыгада механізатараў, якой прысвоена ганаровае званне камуністычнай. Цяпер многія камсамольцы вырашылі таксама змагацца за званне ўдарнікаў камуністычнай працы!

Не першы раз у нас праводзяцца тэматычныя вечары. Таму ўсё было загадзя прадумана і прадугледжана. Пасля абмеркавання і зацвярджэння плана вечара на камсамольскім сходзе, адразу ж былі размеркаваны абавязкі—хто і за што адказвае. Так, напрыклад, даклад «Маладыя будаўнікі камунізма» даручылі прачытаць настаўніцы Л. Сальнікавай, за мастацкае афармленне Дома культуры павінны былі адказваць камсамолкі Яніна Паўлюкевіч і Тамара Канькова.

І вось надышоў той вечар, да якога так актыўна рыхтаваліся, якога чакалі юнакі і дзяўчаты вёскі. На яго прыйшло каля ста маладых працаўнікоў калгаса.

— Нашы разведчыкі будучыні— члены брыгад камуністычнай працы,—заявіла Л. Сальнікава, — на справе паказваюць, якой яшчэ больш натхнёнай стане праца пры камунізме для кожнага чалавека.

Усхваляваным было выступленне сакратара партбюро арцелі, Сцяпана Рыгоравіча Токмана.

— Людзі будучыні ўяўляюцца мне дужымі і мужнымі, гатовымі на ўсё ў імя ідэі, за якую яны змагаюцца,—гаварыў ён.

Стары камуніст, настаўнік Сцяпан Логвінавіч Кухарэнка расказаў прысутным, як камсамольцы ў першыя гады Савецкай улады актыўна ўдзельнічалі ў палітычным і культурным жыцці вёскі. Яны ніколі не баяліся цяжкасцей, дапамагалі партыі.

На гэтым цікавым вечары сакратар камітэта камсамола Марыя Далінская паведаміла, чым сустрэлі партыйны з'езд камсамольцы і моладзь калгаса. Яны правялі нядзельнік па азеляненню вёскі, пасадзілі каля ста дэкаратыўных дрэў і кустарнікаў, стварылі пры Доме культуры камсамольска-маладзёжную агітбрыгаду, якая наладзіла 12 канцэртаў для калгаснікаў.

Большасць камсамольцаў удзельнічае ў гуртках мастацкай самадзейнасці. Лепшых з іх—Анатоля Ястрэмскага, Генадзя Дудко і Аляксея Шымана рэкамендавалі ў партыю.

У нас за апошні час паспяхова прайшлі вечары на тэмы: «Мы будзем жыць пры камунізме», «Маральны кодэкс будаўніка камунізма», а цяпер рыхтуем вечар—«Ці гатоў ты жыць пры камунізме?»

Тэматычныя вечары аб камунізме выклікаюць жывую цікавасць у маладых працаўнікоў вёскі.

**В. СУРМАЧ,**
**дырэктар Залескага сельскага Дома культуры, Смаргонскага раёна.**

# ЛЁС МАЛЫХ ГАРАДОЎ

У апошні час назіраецца значны рост вялікіх гарадоў, узнікаюць новыя прамысловыя цэнтры (Салігорск, Нова-Полацк, Светлагорск, Белаазёрск). У бліжэйшыя дваццаць год у Беларусі будзе пабудавана не менш 250 буйных прадпрыемстваў.

У гэтых умовах вялікай увагі патрабуе планамернае размяшчэнне новых прамысловых прадпрыемстваў. У праекце Праграмы КПСС гаворыцца: «Разгорнутае будаўніцтва камунізма патрабуе ўсё больш рацыянальнага **размяшчэння** прамысловасці, якое забяспечыць эканомію грамадскай працы, комплекснае развіццё раёнаў і спецыялізацыю іх гаспадарак ліквідуе празмерную скучанасць насельніцтва ў буйных гарадах, будзе садзейнічаць пераадоленню істотных адрозненняў паміж горадам і вёскай, далейшаму выроўніванню ўзроўняў эканамічнага развіцця раёнаў краіны».

Цяпер Белдзяржпраект завяршае складанне схемы размяшчэння буйных прадпрыемстваў на дваццацігадовы перыяд. З ростам прамысловасці прыкладна ў два з палавінаю разы павялічыцца колькасць насельніцтва.

Буйная прамысловасць сканцэнтравана ў нас у асноўным у 18-ці гарадах. Прадугледжваецца дадатковае размяшчэнне яе яшчэ ў 30-ці малых гарадах, дзе выгодныя транспартныя сувязі, добрыя водныя рэсурсы. Электрагаспадарку можна падключыць да рэспубліканскай энергасістэмы, а ў многіх месцах можна выкарыстаць газаправод. Усё гэта спрыяльныя ўмовы для развіцця малых гарадоў.

Аднак, калі сельскія населеныя месцы ў рэспубліцы паступова павялічваюцца з дапамогаю калгасаў і саўгасаў, дык развіццё малых гарадоў застаецца праблемай. Трэба ўлічыць, што каля 80 працэнтаў беларускіх гарадоў налічвае да 10 тысяч чалавек кожны і з'яўляюцца пераважна раённымі цэнтрамі.

Такія гарады, як Рэчыца, Добруш, Рагачоў, Жлобін, Вілейка, Івацэвічы, Кобрын, Гарадок і многія іншыя маюць сваю гісторыю, пэўныя традыцыі, а таксама спрыяльныя ўмовы для размяшчэння ў іх прамысловасці. Стварэнне ж у далейшым зусім новых прамысловых гарадоў і пасёлкаў, за рэдкім выключэннем, у Беларусі наўрад ці мэтазгодна.

Нямала нашкодзіла развіццю нашых малых гарадоў і іх добраўпарадкаванню тое, што звычайна параўнальна невялікія прадпрыемствы (ільнозаводы, РТС, цукровыя заводы і інш.) і карлікавыя жылыя пасёлкі пры іх будаваліся далёка ад раённых цэнтраў. Колькі такіх карлікавых пасёлкаў у нас з'явілася за апошнія гады! Паедзьце ў Крупкі і вы ўбачыце адзін з іх. Кіламетраў за шэсць ад раённага цэнтра, налева ад магістралі Мінск — Масква, Міністэрства сельскай гаспадаркі БССР па праекту былога Белсельпраекта пабудавала ільнозавод і пры ім пасёлак з некалькіх дзесяткаў домікаў. У такім пасёлку ні сярэдняй школы, ні універмага, ні кінатэатра не пабудуеш, і таму тут жыць нязручна і нявесела.

У рэспубліцы размяшчэнне прамысловых прадпрыемстваў цяпер абавязкова ўзгадняецца з Дзяржбудам БССР. Гэта ўзмацніла кантроль за правільным будаўніцтвам, а таксама развіццём населеных месц. Прывядзём адзін з прыкладаў. Меркавалася пабудаваць цукровыя заводы за тры-чатыры кіламетры ад Слуцка і Калінкавіч і непасрэдна ля іх стварыць жылыя пасёлкі. Пасля таго, як умяшаўся Дзяржбуд, новыя дамы для рабочых замест гэтых карлікавых пасёлкаў будуць пабудаваны ў малых гарадах.

Трэба сур'ёзна паставіць пытанне аб маральнай адказнасці архітэктараў-планіроўшчыкаў за якасць горадабудаўнічых работ. Нам здаецца, што Саюз архітэктараў павінен прымаць меры грамадскага ўздзеяння на праекціроўшчыкаў, якія ігнаруюць элементарныя патрабаванні горадабудаўніцтва.

Калі буйныя прамысловыя прадпрыемствы будуць размешчаны ў вялікай групе малых гарадоў, яны будуць развівацца больш паспяхова. Што датычыць астатніх малых гарадоў, пераважна раённых цэнтраў (па тры-сем тысяч насельніцтва ў кожным), дык іх развіццё звязана з далейшым ростам мясцовай прамысловасці, канцэнтрацыяй міжкалгасных прадпрыемстваў, а таксама ростам устаноў сістэмы раённага абслугоўвання.

У Беларусі намячаецца развіццё двух тыпаў малых гарадоў: прамысловых, з насельніцтвам у сярэднім 40—50 тысяч чалавек кожны, і цэнтраў сельскагаспадарчай вытворчасці, мясцовай прамысловасці і сістэм раённага абслугоўвання, з насельніцтвам 10—20 тысяч чалавек.

Велічыня другой группы малых гарадоў у радзе выпадкаў ужо вызначылася ў сувязі з распрацоўкай праектаў раённай планіроўкі сельскагаспадарчых раёнаў.

Што датычыць лёсу развіцця вялікіх гарадоў, да якіх адносяцца абласныя цэнтры Беларусі, дык у іх колькасць насельніцтва павялічыцца да 250—300 тысяч чалавек. Гродна, напрыклад, за 20-гадовы перыяд вырасце ў тры разы.

Асабліва сур'ёзнай з'яўляецца праблема далейшага развіцця сталіцы рэспублікі — горада Мінска. У зацверджаным у 1959 г. генеральным плане перспектыўнага развіцця Мінска прадугледжвалася, што насельніцтва горада да 1965 г. будзе складаць 650 тысяч чалавек і да 1980 г. — 800 тысяч чалавек. Пры гэтым нашы горадабудаўнікі не ўлічвалі размяшчэння ў горадзе новых прамысловых прадпрыемстваў, неабходнасць у якіх з'явілася на практыцы. Напрыклад, у Мінску, дзе працуюць аўтамабільны і трактарны, неабходны і маторны завод. І гэта не выпадкова, бо на трактарным заводзе ўжо ёсць у зародку такое прадпрыемства у выглядзе буйнага маторабудаўнічага цэха, на базе якога на працягу пасляваенных год выраслі высокакваліфікаваныя кадры, перамяшчэнне якіх было б вельмі цяжкім. Апроч таго, новы завод па сутнасці будзе працаваць на кааператыўных асновах з трактарным.

Каб не памыляцца ў прагнозах развіцця прамысловасці буйных гарадоў, трэба больш грунтоўна вывучыць эканоміку сучаснай прамысловасці.

Як паказваюць папярэднія разлікі, у Мінску, дзе цяпер ужо жыве каля 600 тысяч чалавек, у канцы 1980 г. будзе не менш аднаго мільёна чалавек.

У сувязі з гэтым прынята рашэнне аб карэкціроўцы генеральнага плана горада. Асаблівы клопат выклікае неабходнасць стрымання далейшага росту горада.

Праект прыгараднай зоны Мінска, які распрацоўваецца Белдзяржпраектам, прадугледжвае стварэнне некалькіх гарадоў-спадарожнікаў на базе цяперашніх малых гарадоў і пасёлкаў (Дзяржынск, Смалявічы, Рудзенск), а таксама значнае развіццё раду населеных пунктаў гарадскога тыпу, ператварэнне іх у навуковыя цэнтры, цэнтры адпачынку, цэнтры медыцынскага абслугоўвання і інш.

Каб правільна рэгуляваць рост горада, рад прадпрыемстваў будзе вынесены з горада ў прыгарад і за яго межы. Справа ў тым, што многія прадпрыемствы цяпер апынуліся сярод шчыльнай жылой забудовы і не маюць рэзервнай тэрыторыі для пашырэння. Гэта перашкаджае іх мадэрнізацыі.

Рэальны шлях вырашэння гэтай праблемы, на нашу думку, заключаецца ў стварэнні філіялаў прадпрыемстваў за межамі жылой тэрыторыі ў сумежных з горадам раёнах. А ў будучым паступова будуць перабазіраваны і асноўныя прадпрыемствы.

Само жыццё падцвярджае, што гэта найбольш рэальны шлях. Напрыклад, завод імя Варашылава ў Мінску мяжуе з ракой, што праходзіць праз цэнтральную частку горада, і акружаны жылымі дамамі. Пасля неаднаразовых спроб Саўнаргаса вырашыць праблему тэрытарыяльнага пашырэння завода, кіраўніцтва яго само прыйшло да вываду, што філіял завода неабходна стварыць у іншым месцы.

Цікавы вопыт развіцця станкабудаўнічага завода імя Кірава ў Віцебску. Гэтае прадпрыемства, знаходзячыся ў цэнтральнай частцы горада, насуперак горадабудаўнічай мэтазгоднасці, працягвала пашырацца на абмежаванай тэрыторыі. Але ўрэшце ўсе тэрытарыяльныя рэзервы былі вычарпаны. У сувязі са значным перспектыўным ростам валавой прадукцыі Саўнаргас паставіў пытанне аб стварэнні філіяла завода за горадам.

Лёс нашых гарадоў непарыўна звязаны з прынцыпамі далейшага размяшчэння прамысловасці.

Гэта карэнныя праблемы нашага горадабудаўніцтва, у паспяховым вырашэнні якіх кроўна зацікаўлены наш народ.

**Е. ЗАСЛАЎСКІ,**
**архітэктар.**

**Звыш 30 канцэртаў дала ў гэтым годзе ў раёнах вобласці агітбрыгада Гродзенскага абласнога Дома народнай творчасці. Нядаўна самадзейныя артысты з поспехам выступілі ў новым клубе калгаса «Сямігодка» Іўеўскага раёна.**
**НА ЗДЫМКУ: выступае салістка агітбрыгады Алена Чайкоўская.**
**Фота М. КАРЖУЕВА.**

# Пачуццё высокай адказнасці

— З выключным хваляваннем пачалі мы шостага кастрычніка асенне-зімовы сезон, — сказаў у гутарцы з нашым карэспандэнтам дырэктар Брэсцкага тэатра імя ЛКСМБ Л. Валчэцкі.— Хацелася і нам, работнікам беларускага мастацтва, сустрэць гістарычны XXII з'езд КПСС новымі спектаклямі на тэмы, якія асабліва цікавяць савецкага гледача.

Прэм'ера «У сэрцы Афрыкі» (па матывах рамана Б. Дэвідсана «Рачныя парогі», пастаноўка Г. Волкава, мастак А. Гзыла, кампазітар М. Русін) — антыкаланіялісцкі твор, у якім выкрываюцца белыя плантатары і іх звярыная расісцкая мараль. У нашым новым рэпертуары ёсць таксама камедыя «Фараоны» А. Каламійца на тэму калгаснага жыцця (пастаноўка Ю. Арынянскага, мастак А. Петрачэнка).

Рэжысура тэатра адначасова вядзе рэпетыцыі па трох новых п'есах.

Драма Фрыца Куна (ГДР) «Крэдыт у Нібелунгаў» выкрывае былых нацыстаў і цяперашніх заходнегерманскіх рэваншыстаў, якія намагаюцца распаліць полымя трэцяй сусветнай вайны. Над спектаклем працуюць рэжысёр П. Вінаградаў і мастак А. Гзыла.

Камедыю М. Крэйндэль і М. Смірновай на тэмы жыцця нашай моладзі «У сябе ў палоне» ставіць рэжысёр Г. Волкаў (мастак Ул. Мудрогін).

Галоўны рэжысёр Ю. Арынянскі рыхтуе спектакль па п'есе маладога беларускага драматурга Я. Пасава «Чалавек за бартом» — на тэму барацьбы з сектанцтвам.

З тых твораў савецкіх драматургаў, якія ўжо напісаны або пастаўлены іншымі тэатрамі, наш калектыў зацікавіўся новай п'есай І. Дварэцкага «Вялікае хваляванне», драмай В. Пановай «Провады белых начэй». Мы знаёмімся таксама з п'есай Д. Угрумава «Чамадан з наклейкамі», інсцэніроўкай па раману «Чэсць» Р. Мядынскага.

Узнаўляюцца і найбольш значныя старыя спектаклі: «Брэсцкая крэпасць», «Няроўны бой», «Іркуцкая гісторыя», «Анна Карэніна». У апошнім спектаклі ў ролі Анны ўпершыню выступіць таленавітая артыстка Наталля Камінская.

Мы будзем таксама паглыбляць творчыя сувязі з народнымі тэатрамі.

Акцёры і рэжысёры Ю. Арынянскі, А. Асторына, Г. Волкаў, Н. Ганчарэнка, С. Яўдошанка і іншыя па прыкладу мінулага года будуць выступаць з гутаркамі і лекцыямі па праблемах тэатра ў гарадскім універсітэце культуры.

Брэсцкі тэатр мае добрую традыцыю трывалых сувязей з вясковымі гледачамі. За невялікі час пасля пачатку сезона нашы артысты са спектаклямі «Кухарка», «І праўда і шчасце», «Фараоны» наведалі калгасы Высокаўскага, Камянецкага, Кобрынскага, Ружанскага і Брэсцкага раёнаў.

Цяпер рыхтуемся да паездкі на будаўніцтва Бярозаўскай ДРЭС.

— У гэтыя дні ў нашай роднай Маскве, — сказаў у заключэнне Л. Валчэцкі, — праходзіць з'езд ленінскай партыі, на якім будуць прыняты новая Праграма і новы Статут партыі. Гэтыя гістарычныя дакументы адкрываюць велізарныя перспектывы для росквіту культуры будаўнікоў камунізма, для новага творчага ўздыму савецкага тэатра. Наш калектыў прыкладзе ўсе намаганні для таго, каб павысіць ідэйна-мастацкае гучанне сваіх спектакляў.

ПА КАНЦЭРТНЫХ ЗАЛАХ

# ТАЛЕНАВІТЫ ГІТАРЫСТ

Гітара належыць да ліку інструментаў, якія карыстаюцца вялікай любоўю шырокіх мас. На жаль, з гітарай, як з канцэртным інструментам, на эстрадзе сустрэцца можна не часта. І не дзіўная тая вялікая цікавасць, якую выклікаў канцэрт у Мінску вядомага іспанскага гітарыста Ніколаса Альфонса.

Першае, што звяртае на сябе ўвагу ў канцэрце артыста, гэта вялікі і разнастайны рэпертуар, які ўключае музыку для гітары, пачынаючы з XVI стагоддзя (Гальярды, Роулэнда) да нашых дзён (творы Віла-Лобаса, Тароба і г. д.). Ніколас Альфонса выконвае не толькі творы, напісаныя спецыяльна для гітары, але і пераладжэнні музыкі Іагана Себасцьяна Баха, створанай для клавесіна, фартэпіянныя п'есы Гранадаса, Альбеніса і іншых «негітарных» кампазітараў. Пры наяўнасці выдатнай выканаўчай тэхнікі ігры на гітары, артыст ніколі не падмяняе перадачу глыбіні зместу твораў вонкавым віртуозным бляскам. Асабліва варта адзначыць прыгажосць і высакароднасць гуку ў ігры выканаўцы.

Ніколас Альфонса некалькі год жыве і працуе ў Бельгіі. Канцэртную дзейнасць ён пачаў з 1945 года і вельмі паспяхова выступаў апроч Бельгіі ў Іспаніі, Англіі, Францыі, Галандыі і ў некаторых афрыканскіх дзяржавах. Яго канцэрты ў Савецкім Саюзе з вялікім поспехам праходзілі ў Маскве, Ленінградзе, Таліне, Рызе, Вільнюсе. У Мінску Н. Альфонса закончыў свае гастролі ў СССР.

**В. БАРХАТАВА.**

**У Мінску адбыліся гастролі ансамбля песні і танца Чарнаморскага флоту.**
**Фота Ул. КРУКА.**

# На экране фільмы кінааматараў

У нашай рэспубліцы ёсць ужо каля ста аматарскіх кінастудый. Напярэдадні адкрыцця XXII з'езда КПСС у Мінску быў наладжаны агляд аматарскіх фільмаў.

12 шыракаплёначных карцін і 11 на вузкай плёнцы было прадстаўлена на агляд. Іх рабілі супрацоўнікі Мінскага медыцынскага, студэнты Беларускага палітэхнічнага інстытутаў, рабочыя Мінскага трактарнага завода і іншыя.

Сярод фільмаў звяртаюць на сябе ўвагу — «Капрон замест металу», «За тэхнічны прагрэс», «Дом тэхнікі Беларускай чыгункі», створаныя аматарскай студыяй Дома тэхнікі Беларускай чыгункі; кінанарысы «Медыцынскі экран» (мединстытут); «Рапарт Радзіме», «Мы заўсёды напагатове»—аматарскай кінастудыяй вайсковай часці; фільм дзіцячай кінастудыі Палаца прафсаюзаў «Зорачка» і інш. Два фільмы—«Сустрэча» і «Асенні эцюд» ішлі пад рубрыкай «Мастацкія».

Карціны былі розныя па сваёй якасці і прафесіянальнай пісьменнасці, тым не менш усе яны ў той ці іншай меры адлюстроўваюць наша жыццё.

Так у фільме «Разведчыкі будучыні» (рэжысёр-аператар Кульгавы) ёсць добры намер расказаць пра жыццё простых савецкіх людзей, якія робяць вялікія справы. Знаёмыя і блізкія нам людзі паказаны ў працы, у творчым напружанні вынаходцаў, у час вучобы і адпачынку.

Добрае ўражанне пакідаюць фільмы «Рапарт Радзіме», «Мы заўсёды напагатове» старшага лейтэнанта Дронава. Аўтар не толькі ведае, але і любіць сваіх герояў, уважліва сочыць за іх баявой вучобай.

У большасці фільмаў гаворка ідзе пра чалавека, пра яго справы. Аўтары іх стараюцца захапіць як мага шырэйшы пласт жыцця. Але аматары не ўмеюць яшчэ праз аднаго чалавека паказаць калектыў, у іх яшчэ няма ўвагі да тых дробязей, рысачак, якія падкрэсліваюць характар чалавека.

Так, у фільме «Жыць згодна статуту» няма нават імкнення раскрыць вобраз чалавека. Героямі твора з'яўляюцца пункты вайсковага статуту, а не людзі, для выхавання якіх створаны гэты статут.

Многія аматарскія фільмы трацяць яшчэ і таму, што ў іх няўдалыя тэксты. Не адчуваецца, што слова — самастойны кампанент фільма. Тэкст часта проста паўтарае кадры. У дакументальным фільме слова яднае ў адно цэлае матэрыял, выяўляе ідэю твора. Дыктарскі тэкст павінен быць эмацыянальным, вобразным, немнагаслоўным, толькі тады ён арганічна спалучаецца з кадрам. Часам у фільме няма сінхроннасці паміж тэкстам і кадрам: дыктар гаворыць адно, а на экране бачыш другое.

Некаторыя аматары паспрабавалі свае сілы і ў мастацкай творчасці. Ваеннаслужачы В. Шарыкаў зняў фільм «Сустрэча», які атрымаў другі дыплом. Сюжэт фільма дэтэктыўны. Нейкая дзяўчына па заданню замежнай разведкі праходзіць у воінскую часць. Усё астатняе паказана спрошчана і прымітыўна.

Некалькі слоў аб арганізацыі конкурсу. Усе фільмы былі паказаны ў другой палове дня. Прагледзець усе іх, тым больш уважліва, было нялёгка. А галоўная мэта агляду—не толькі выявіць лепшыя работы, але і забяспечыць далейшы творчы рост удзельнікаў. Магчыма, патрэбна было арганізаваць семінар, зрабіць падрабязны разгляд пададзеных на конкурс фільмаў, каб іх аўтары даведаліся пра свае недахопы. А то можа здарыцца, што аматары павязуць дадому разам са сваімі фільмамі і свае памылкі, і ў наступны год тыя ж недахопы з'явяцца на экранах у новай рэдакцыі.

Так ці інакш, але кінааматарства на Беларусі жыве, робіць свае першыя крокі. Хочацца пажадаць, каб аматары менш выконвалі заказы, а кіраваліся загадам свайго сэрца, менш рабілі б інсцэніровак, а больш здымалі жыццё, якое само па сабе паўнапраўнае і маляўнічае. Магчыма, трэба пачынаць не з карцін, а з эцюдаў, закончаных па кампазіцыі, як пачынае мастак вялікае палатно.

Выразнасць задумы, прафесіянальная пісьменнасць, грамадзянскія пачуцці патрыёта—вось тая глеба, на якой павінна расквітнець аматарскае кінамастацтва. Міністэрства культуры, прафсаюзы, Аргкамітэт кінаработнікаў БССР павінны больш удумліва падтрымліваць першыя парасткі новай справы, трымаць пастаянную сувязь з аматарскімі студыямі.

Беларускія кінастудыі могуць узяць шэфства над аматарскімі студыямі, арганізаваць кансультацыі па пытаннях рэжысуры, сцэнарыя, аператарскай работы і г. д. І тады энтузіясты кіно Беларусі здолеюць стварыць жывы летапіс сваёй рэспублікі.

**Г. РАТНІКАЎ.**

Галоўны рэдактар Нічыпар ПАШКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: Заір АЗГУР, Аляксандр БУТАКОЎ, Кастусь ГУБАРЭВІЧ, Васіль ІВАШЫН, Аркадзь МАРЦІНОВІЧ (адказны сакратар), Пятро ПРЫХОДЗЬКА, Раман САБАЛЕНКА (намеснік галоўнага рэдактара), Мікола ТКАЧОЎ, Янка ШАРАХОЎСКІ, Іван ШАЦІЛА, Рыгор ШЫРМА.